Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 1—20
(Wilno, Ostrobramska 1—20).
Адчынена
ад 9 да 19 г.

Часапіс
выходзіць
раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.
Нумар паштовага разрахунку: 100.

№ 2 (24) Вільня, 5-га лютага 1938 г. Год III.

## Да масавай сьведамасьці.

У трох апошніх з 1937 г. нумарох „Б. Фронту“ мы налічылі беларускай этнаграфічнай масы ў Польшчы 3 *тільёны* 300 *тысяч чалавек*. Кожны бесстаронны абсэрватар, прыгледаючыся да белярус. этнаграфічнай масы ў Польшчы, прызнае, што гэта ёсьць *вялікая маса*. Нават віл. „Słowo“ пару гадоў таму пісала, што „od Prypeci po Dźwinę rozłożyło się ogromne drzemiące cielsko ludu białoruskiego“. Сапраўды, вялікая але дрэмлючая маса! Хоць у бел. марсэльезе пяецца, што „ад веку мы спалі і нас разбудзілі“, аднак трэба сказаць праўду, што гэтыя словы тасуюцца толькі да часьці гэтага народу, але не да цэласьці. Большасьць астаецца яшчэ дрэмлючай і загадковай у сваей драмоце.

Але мыляўсяб той, хтоб думаў, што наш народ зьяўляецца дрэмлючым пад кожным узглядам і ў кожнай дзялянцы жыцьця: гэты народ дрэмле толькі ў дзялянцы *нацыянальнага* жыцьця. Тая частка, якая была прабуджана і ўзялася да нацыянальнага будаўніцтва, спаткаўшыся з вялізарнымі перашкодамі, адыйшла ад нацыянальнай працы сама, або была адсунута ад яе сілаю. Павадыры былі за гэту работу нават моцна пакараны. Бачучы гэтакі лёс сваіх павадыроў, многія адказаліся зусім ад беларускай работы, чакаючы „перамены“. У рэзультаце бел. этнаграфічная маса задрамала ізноў, сьнючы сны аб блізкай перамене...

Разглядаючы наш народ з пункту нацыянальнага, трэба з сумам прызнаць, што ён у вялікай большасьці зьяўляецца яшчэ этнаграфічнай масай. Праўда, гэтая маса гаворыць пабеларуску, дзяржыцца сваей традыцыі, сваіх звычаёў і абычаёў, але актыўна з сваімі нацыянальнымі жаданьнямі не выступае. Дый нават з сацыяльнымі дамаганьнямі выступае рэдка, з чаго вельмі дзівяцца пастаронныя людзі, а маршалак сэнату Прыстар на аднэй з эканамічных канфэрэнцыяў у Вільні заявіў, што тутэйшы народ і прасіць ня ўмее...Так, наш народ масавымі просьбамі мазаліць вачэй ня прывык. Калі папрасіць чаго, дык сам і ў сваей асабістай справе, але ня ў справе ўсяго народу.

Можа гэтыя словы не спадабаюцца некаторым беларускім рамантыкам, якія хацеліб відзець у беларускім народзе і поўнае нацыянальнае ўсьведамленьне і поўную рашучасьць у сваіх дамаганьнях. Нажаль, мусім сьцьвердзіць, што ўсяго гэтага няма. *Наш народ усьведамлены толькі сацыяльна*, ён знае свае гаспадарчыя і эканамічныя патрэбы, разважае свае труднасьці і шукае з іх выхаду, але нацыянальных масавых імкненьняў так як у народаў польскага, літоўскага, латвійскага і інш. няма. Пры шуканьні выхаду з сацыяльнай бяды рэдка якому вясковаму дзеячу, прыйдзе думка аб неразлучнасьці справы сацыяльнай са справай нацыянальнай, большасьць думае, што з вырашэньнем справы сацыяльнай вырашыцца і справа нацыянальная. Аднак болей глыбокія палітыкі ведаюць, што *без вырашэньня справы нацыянальнай ня вырашыцца справа сацыяльная беларускага народу*.

Вялікай памылкай ў дзейнасьці некаторых беларускіх партыяў было тое, што яны зварочвалі ўвагу болей на сацыяльнае, чым нацыянальнае ўсьведамленьне. Ня трэба закрываць сваіх вачэй на той факт, што такая напр. Грамада разьвівала пасярод бел. насельніцтва бадай выключна сацыяльнае ўсьведамленьне, якое пасярод беларусаў і так пашыранае. Беларус ведае што „трэба свабоды, зямлі чалавеку“, але не ставіць перад сабою шырэйшых і далейшых *нацыянальных* ідэалаў. Аб дабрэ сваей нацыі беларус у сваей марсэльезе не пяе, а толькі аб сваей асабістай крыўдзе і шукае помсты за гэту крыўду. Жаданьня нацыянальнага будаўніцтва, разьвіваньня беларускай культуры і нац. асаблівасьцяў у гэнай песьні няма.

Каб зразумець гэтае зьявішча, трэба зьвярнуць увагу на тое, што сацыяльнае ўсьведамленьне бел. народу тварылася цэлымі стагодзьдзямі, а нацыянальнае толькі ў апошнія часы, можна сказаць, ад выхаду „Нашай Нівы“ (1906 г.) і асабліва ад расейскай рэвалюцыі. За гэты кароткі час беларуская этнаграфічная маса не змагла стацца сьведамым, ведаючым свае нацыянальныя мэты, народам. Польскі сялянскі люд у часе паўстаньня 1863 г. быў таксама нясьведамай этнаграфічнай масай і нават выступаў проціў тых, хто змагаўся за польскія нацыянальныя ідэалы. Ен быў тады толькі сацыяльна ўсьведамлены, але прайшло некалькі дзесяткаў гадоў і ён усьведаміўся нацыянальна, Гэтае будзе і з народам беларускім,

Некаторыя варожаць беларускай этнаграфічнай масе ліхую долю: кажуць, што яна зьнікне з вобліку зямлі, падзеленая паміж польшчынай і расейшчынай. Да гэтага ідуць варожыя да беларусаў сілы, як з боку польскага так і расейскага нацыяналізму. Кажуць, што беларускі народ ня мае нац. усьведамленьня, ня цэніць сваіх нац. асаблівасьцяў, а над усё ня мае сваей інтэлігенцыі, а без інтэлігентных павадыроў кожны народ зьяўляецца толькі масай, няздольнай да сыстэматычнай, пляновай і абдуманай дзейнасьці. Мы аднак не глядзім гэтак пэсымістычна на будучыню нашага народу. Праўда, наш народ слаб, але побач з сваімі слабасьцямі ён мае і свае сілы.

Першай сілай ёсьць ягоная *масавасьць*. Наш народ жыве на сваіх землях масаю і ён інстынктоўна адчувае сваю масавую сілу. У вёсцы, мястэчку, на рынку, у грамадзе ён чуецца адважным і сьмелым. Толькі адарваны ад масы беларус траціцца і нават стыдаецца сам сябе. Але вярнуўшыся з гораду, войска ці са школы, ён ізноў уваходзіць у народную масу, зжываецца з ёю і знаходзіць самога сябе. Чужыя адзінкі, якія трапляюць у гэтую масу, ня толькі ня могуць нічога зрабіць у мэтах дэнацыяналізацыі беларускай масы, але дэнацыяналізуюцца самі. Калялісты і асаднікі мясцамі пераймаюць беларускую мову. На працягу гісторыі беларуская маса нясьведама адсунула на захад літоўскую этнаграфічную мяжу, устаяла перад польскай, а паддалася толькі па большых гарадох. Але гарады яшчэ не становяць аб вобліку краю.

Другой сілай бел. этнаграфічнай масы ёсьць яе *кансэрватызм* у добрым разуменьні гэтага слова. Пад кансэрватызмам разумеем тут прывязаннасьць беларуса да сваей мовы, абычаяў, краю. Беларус, жывучы ў масе, так лёгка ня кідае свайго абычаю і сваей мовы, а нават сьмяецца з тых, што пабыўшы на чужыне, адрокся ад свайго. Дык апіраючыся на масавасьці і на кансэрватызьме, беларускі народ перэтрываў многа, спадзяёмся, што перэтрывае і сягоньняшні націск на яго польскага і расейскага нацыяналізму.

Прызнаём, што найбольшай балячкай бел. народу ёсьць нястача інтэлігенцыі. Магчыма, што дзеля гэтай нястачы ідзе так паволі бел. адраджэньне. Тады калі ўсе суседнія народы (польскі, літоўскі, латышскі, а нават ўкраінскі) мелі і маюць у сваім адраджэньні апірышча ў сваей інтэлігенцыі і духавенстве, то народ беларускі гэтага ня мае. Ен, агулам бяручы, пакінены і зданы на свае уласныя сілы. У цяперашніх абставінах бел. інтэлігенцыя пакідае працу для народу і шукае для сябе „лепшага“ жыцьця. Няма яшчэ пасярод бел. інтэлігенцыі такіх асоб, якіяб, скончыўшы адукацыю, селі на бацькаўскім загоне і працавалі на кавалак хлеба, так, як гэта бывае заграніцай. У нас такога інтэлігэнта абсьмяялі б суседзі і выткнуліб „бескарыснасьць“ навукі, якая у іх разуменьні павінна даць „панскі“ хлеб. Гэтак разумее народная маса, гэтак разумее і наша інтэлігенцыя. Дык нашы інтэлігенты шукаюць службы, а як няма беларускіх устаноў, дзе можна былоб знайсьці працу, ідуць у польскія і ўважаюць за вялікае шчасьце, калі ім удасца атрымаць урадавую службу. Там спатыкаюцца з атмасфэрай, пасярод якой глохне і гіне ўся іх даўнейшая ахвота да працы. Сколькі іх ўжо вышла з бел. гімназіяў, сколькі з унівэрсытэтаў, а дзе яны? Беларуская прэса падае часам прозьвішчы такой інтэлігенцыі, але ці гэта што паможа? На шчасьце, ня ўся інтэлігенцыя гэтак паступае, частка яе ахвярна працуе для свайго народу і на гэтай інтэлігенцыі дзяржыцца ўвесь сяньняшні беларускі рух. Трэба тут сказаць шчырую праўду, што без свае інтэлігенцыі беларускі народ не здабудзе ўсіх належных яму правоў. Дык памагаць тварэньню кадраў бел. інтэлігенцыі ёсьць вялікай задачай сьведамай часткі бел. народу.

Гэтакія ёсьць нашы слабасьці і сілы. Многія беларусы, відзячы слабасьці свайго народу і няўдачы ў яго спробах дайсьці да лепшага быту, кідаюцца ва ўсе бакі, шукаючы ратунку, а калі не знаходзяць, падаюць духам і адыходзяць ад працы. Аднак падаць духам ня можна, трэба ведаць, што палітычныя здабыткі так скора не даюцца, што часам на гэтыя здабыткі трэба працаваць дзесяткі гадоў...

*А ў сучаснасьці трэба ісьці да таго, каб беларуская этнаграфічная маса сталася сьведамым беларускім народам.* Сьведамы народ, ня сягоньні то ўзаўтры, здабудзе для сябе ўсе нацыянальныя і сацыяльныя правы.

## Нашы адносіны да „людовага фронту“.

Ад 1935 г. гэта значыць ад VII кангрэсу „Камінтэрну“ камуністы прыступілі да будовы ў кожнай дзяржаве і ў кожным народзе гэтак званых „людовых“ фронтаў. Будуюць яны гэтыя фронты, маючы на воку дзьве мэты: 1) змабілізаваць усе магчымыя сілы проціў фашызму, які пагражае зьнішчэньнем камуністычных здабыткаў у Расеі і на ўсім сьвеце; 2) падгатовіць ва ўсіх краёх кадры і грунт да будучай камуністычнай рэвалюцыі. Да 1935 г. камуністы дзяржаліся тэй тактыкі, каб не ўваходзіць у ніякае супрацоўніцтва з іншымі, ня толькі буржуазнымі, але нават сацыялістычнымі партыямі. Ад гэнагаж Кангрэсу зрабілі круты паварот у тактыцы: яны пастанавілі ўваходзіць у супрацоўніцтва з усімі дэмакратычнымі, нацыянальнымі, рэлігійнымі, а нават буржуазнымі партыямі, навязваючы з імі зносіны і ўсімі сіламі цягнучы іх у „людовы“ фронт. Найбольшага рэзультату дабіліся камуністы ў Францыі, дзе створаны імі „людовы“ фронт, зложаны з камуністаў, сацыялістаў і радыкалаў, дайшоў нават да ўлады, якая аднак цяпер перажывае крызыс. У Гішпаніі ўтварэньне „людовага“ фронту прывяло да братняй вайны, трываючай ужо другі год.

У Польшчы тварэньне „людовага“ фронту пачалося ад восені 1935 г. і давяло пакульшто толькі да заключэньня пакту ненападаньня паміж польскімі камуністамі і ППС, аб чым у „Robotniku“ было публічнае паведамленьне. Усе стараньні камуністаў прыцягнуць людоўцаў да супрацоўніцтва, дагэтуль, як чуваць, не далі пазытыўных рэзультатаў, а іхні орган „Zielony Sztandar“ некалькі разоў наракаў на камуністычную навязьлівасьць, ад каторай трудна адчапіцца. У апошнім часе разыйшліся чуткі, што ў сучасных варунках камуністы ад будаўніцтва „людовага“ фронту ў Польшчы адказаліся, бо ўжо ёсьць вялікія ахвяры, а падалі ініцыятыву тварэньня „дэмакратычнага“ блёку, у які ўвайшлаб ўся польская лявіца.

На беларускім грунце былі також спробы тварэньня „людовага“ фронту ў паразумленьні з польскай лявіцай, прыгэтым некаторыя бел. дзеячы выразілі сваю сымпатыю да „людовага“ фронту.

Мы ад самага пачатку занялі *нэгатыўнае* становішча да гэтага новага падыходу камуністаў да беларускага народу з наступных прычын:

вядзе наступленьне з поўначы (ад Пэкіну і Тьенсіну) і з поўдня (ад Нанкіну і Шанхаю) ўздоўж чыгункі Тьенсін-Нанкін, не спатыкаючы большага супраціву з боку кітайцаў. Два кітайскія генэралы былі растраляны па загаду Чанг-Кай-Шэка за тое, што ня выкарысталі ўсіх магчымасьцяў дзеля абароны. Стварэньне паўднёвага фронту (каля Кантону) японцам або не ўдаецца, або не ляжыць у іхных плянах—там ціха. Здаецца, што праціўнікі цяпер гатовяцца да рашучага бою, ў які Чанг-Кай-Шэк мае ўвесьці сьвежыя рэзэрвы, а Японія—новыя транспарты.

Чанг-Кай-Шэку задэкляравалі сваю помач Саветы. Дарога з Туркестану праводзіцца так скора, што будзе гатова ўжо за пару тыдняў, але знаўцы кажуць, што каб абслужыць гэтай дарогай адну дывізію войска, трэба 6 тысяч самаходаў, значыць для 5 дывізыяў трэба 30 тысяч самаходаў! Гэтай дарогай камуністы маюць дастаўляць аружжа і амуніцыю кітайскаму камуністычнаму войску, якое ў ліку 200 тысяч стаіць каля сярэдняга бегу Жоўтай ракі. Туды-ж скіравана помач з Вонкавай Манголіі, якая знаходзіцца пад пратэктаратам Саветаў.

Прэса піша, што Японія не спадзявалася такой зацяжнай і скамплікаванай вайны, якая цяпер адбываецца ў Кітаі. Яна думала, што зробіць парадак з Кітаем так лёгка, як у 1932 г., калі забірала Манджурыю. Аднак цяпер справа труднейшая: ў вайну ўмяшаліся іншыя дзяржавы, вайна зацягваецца, падрываючы японскія фінансы. Мусіць дзеля гэтых усіх камплікацыяў была склікана (10. І.) японская імпэрская нарада, якая склікаецца толькі ў надзвычайных выпадках (першая была склікана ў 1894 г. перад кітайскай вайною, другая ў 1904 — перад расейскай вайною, трэцяя 1914 — перад далучэньнем Японіі да Антанты, чацьвертая—цяпер). Што пастаноўлена на гэтай нарадзе — няма ведама; афіц. японскія кругі заявілі коратка: будзе відаць. З гэтага ўжо „відаць": парваньне зносін з урадам Чанг-Кай-Шэка і разам прапазыцыя яму мірных варункаў, апроч гэтага завастрэньне адносін з Саветамі.

Варункі міру, запрапанаваныя Японіяй, такія: 1) Кітай вырakaeцца проціўяпонскай і проціўманджурскай палітыкі і зрывае саюз з Саветамі, 2) азначаюцца ў Кітаі акругі, ў каторых ня можна дзяржаць войска, 3) Кітай заключае з Японіяй і Манджурыяй гандлёвыя трактаты, 4) Кітай сплачвае Японіі кошты вядзеньня вайны. На гэтыя варункі Кітай не згадзіўся.

Прадбачваючы далейшую і шырэйшую вайну, Японія пачала будаваць вялікія панцырныя караблі (адзін паёмнасьцю 43 тысяч тонн, тады калі найбольшы англійскі карабель „Hood" мае 42 тысячы), што выклікала ў іншых дзяржаў яшчэ большую военную гарачку. Найбольшую гарачку можна спасьцерагчы ў Саветах: там пануюць сапраўды ваенныя настроі. Ідуць работы каля вялізарных украпленьняў як на ўсходзе так і на захадзе.

З Ленінграду выселяюць усіх чужаземцаў, нават консульствы, і будуюць вялікія ўкрапленьні, як з мора так і з сушы. Усе прарочаць скорую вайну паміж Саветамі і Японіяй. Знакі на небе і на зямлі могуць збыцца... На манджурскай граніцы стаіць проціў сябе 400 тысяч савецкага войска і 350 тысяч японскага.

### Гішпанія.

У Гішпаніі ідзе падгатоўка да апошніх падзеяў. Франко быццам мае труднасьці з сваімі генэраламі, а такжа з саюзьнікамі Італіяй і Нямеччынай. Дзеля гэтага „чырвоныя" атакуюць і маюць нават некаторыя здабычы. Тэруэль астаўся ў іх руках. Фронт праходзіць 1 клм. на захад ад Тэруэлю. У студні былі вельмі крывавыя налёты аэрапланаў адных і другіх: паўстанцы ў Барцэлёне забілі бомбамі каля 500 асоб, яшчэ болей ранілі; за гэтае „чырвоныя" зрабілі два налёты: адзін на Саляманку, другі на Цэўту, пры якіх столькіж забілі і ранілі. На гэта ген. Франко адказаў новым налётам на Барцэлёну, пры каторым бомбамі зьнішчаны дзьве вуліцы і забіта каля 200 чалавек. Налётам канца ня відаць. У апошніх днях прыйшла вестка, што ген. Франко стаў на чале ўраду і арміі; разам з гэтым прыйшла другая вестка, што Мусоліні высылае ў Гішпанію новых 50 тысяч „дабравольцаў". Калі гэтая другая вестка праўдзівая, то яна сьведчыць аб нейкай новай умове паміж Франко і Муссоліні.

Вялікім здабыткам для ген. Франко ёсьць прызнаньне яго Югаславіяй, Вэнгрыяй і Румыніяй, якія выразна адыходзяць ад Францыі і Лігі Народаў, а становяцца на старане Італіі і Нямеччыны. Супольная *канфэрэнцыя* Італіі, Аўстрыі і Вэнгрыі, якая адбылася ў Будапэшце, заявіла, што: 1) Аўстрыя і Вэнгрыя адносяцца з сымпатыяй да антыкамуністычнага пакту; 2) Аўстрыя і Вэнгрыя прызнаюць ген. Франко; 3) сьцьвярджаюць, што Італія, выступаючы з Лігі Нар., зрабіла правільна і што яны пакідаюць за сабою права падаць рэвізіі сваё становішча адносна Лігі Народаў.

### Румынія.

У Румыніі ўрад прэм'ера Гогі праводзіць антыжыдоўскую палітыку. Гэтая палітыка зачапляе інтарэсы і іншых нацыянальнасьцяў. І так, выданы закон, паводле якога ва ўсіх прадпрыемствах і установах, нават прыватных, павінна быць 90 прац. румынаў! Ад жыдоў адымаюць грамадзянства і ўсе грамадзкія правы. Гога заявіў, што жыдоў трэба выслаць на выспу Мадагаскар, бо Палестына іх ня зьмесьціць, а каб яны з Мадагаскару ня ўцяклі, трэба яго акружыць ваеннымі караблямі і пільнаваць, каб жыды адтуль ня ўцяклі!

Каб зар'ентавацца ў палітыцы прэм'ера Гогі, падаём некаторыя факты з яго гутаркі з рэдактарам укр. „Неділі" (з 23.І. г. г.) Гутарка гэта адбылася год таму, калі Гога яшчэ ня быў прэм'ерам і калі ён толькішто вярнуўся ад Гітлера. Тады ён казаў што жыдоў трэба выслаць у Саветы, бо там іх ня б'юць, а да Гітлера меў прэтэнсію, што некалькі сот тысяч жыдоў уцяклі з Нямеччыны ў Румынію. На гэта Гітлер засьмяяўся і сказаў: „Вельмі мне прыкра, але я шчасьлівы, што іх пазбыўся". Далей Гога заявіў, што ў інтарэсах Румыніі ёсьць існаваньне незалежнай Украіны, бо Расея была для Рум. некарысна. На запытаньне, ці можа сказаць, аб чым была ягона гутарка з Гітлерам, адказаў, што на гэта ня час, што ня словы, а дзелы патрэбны. У справе загр. палітыкі Румыніі Гога заявіў, што „Румынія пойдзе з Нямеччынай, і толькі з Нямеччынай. Ну і з Польшчай, зразумела" — дабавіў.

Дзеля гэтага мы ня дзівімся, што Францыя спыніла ваенныя даставы ў Румынію, а Італія за румынскую нафту прысылае ў Чорнае мора ваенныя караблі і падводныя лодкі і будуе ваенны порт у Канстанцы. Гэтым мае палажыць канец савецкаму гаспадараваньню на Чорным моры. Цяпер для нас стануць зразумелы словы савецкай прэсы, што на румынскай граніцы Саветы ані на гадзіну ня могуць быць спакойнымі. У апошнім часе нават разыйшліся чуткі, што Нямеччына ў выпадку савецка-японскай вайны пойдзе на Саветы праз Румынію і праз Ленінград.

### Незалежнасьць Ірляндыі.

У 1937 г. была ўхвалена ірляндзкім соймам новыя канстытуцыя, якая вядзе да поўнай незалежнасьці гэтага краю. Прыгэтым афіцыяльны назоў краю зьменены на „Эйрэ".

Канстытуцыя Ірляндыі гаворыць, што сам народ мае права выбраць для сябе найлепшую форму ўлады. Хоць канстытуцыя выразна не гаворыць, якая гэта мае быць форма, то для ўсіх ведама, што ірляндзкі народ і ягоны павадыр Дэ Валера чуюць сымпатыю да рэспубліканскай формы. Прысяга англійскаму каралю ў канстытуцыі скасавана. Ірляндыя будзе мець свой дзяржаўны сьцяг і сваю ўрадавую мову. Прэзыдэнт выбіраецца на 7 гадоў у агульным і беспасярэднім галасаваньні, ён вызначае прэм'ера і зьяўляецца галоўным павадыром арміі. Сойм выбіраецца агульным галасаваньнем грамадзян, скончыўшых 21 год, мае права аб'яўленьня вайны і уставадаўчай ініцыятывы. Сэнат складаецца з 60 асоб: 11 вызначае урад, 43 вызначае сойм, а 6 — ўнівэрсытэты.

Згода Англіі на незалежнасьць Ірляндыі азначае вялікую з боку Англіі ўступку. Але Англія *мусела* гэта зрабіць. Ірляндцы праз усё 19 стагодзьдзе і пачатак 20-га бязупынна змагаліся да сваю волю і незалежнасьць, так што Англія ня мела спакойнай часіны. Змовы, бунты і паўстаньні былі на парадку дня. Урэшце Англія ўступіла і прызнала незалежнасьць Ірляндыі.

У студні адбываліся ў Лёндыне гутаркі паміж прэзыдэнтам Ірляндыі Дэ Валера і англійскім урадам у справе далучэньня да Ірляндыі яе паўночнай правінцыі Ульстэр, заселенай у большасьці англійцамі, або занглііканізаванымі ірляндцамі. Англійскі ўрад заявіў, што справа далучэньня залежыць аб самога Ульстэру, дзе мае адбыцца плебісцыт. Тымчасам мае быць заключаны паміж Англіяй і Ірляндыяй палітычны і гандлёвы трактат а такжа ўмова аб супольнай абароне.

Ірляндыя ужо выступіла самастойна на грунце загранічным. І так — Дэ Валера заявіў, што ірляндзкі ўрад прызнае ўрад ген. Франко ў Гішпаніі; мае прызнаць уладу Італіі над Абісініяй, чаго ня хоча прызнаць Англія і мае намер выслаць ва ўсе дзяржавы сваіх прадстаўнікоў. Зносіны з гішпанскімі паўстанцамі і Італіяй сьведчаць аб фашыстоўскіх сымпатыях Ірляндыі.

### Літва.

Апрацаваны і ўнесены на пацьверджаньне сойму праект новай канстытуцыі, якая складаецца з 151 артыкулу. Паводле новай канстытуцыі Літва і надалей астаецца рэспублікай, аднак узмацняецца улада прэзыдэнта і рады міністраў. У канстытуцыі астаецца артыкул, які гаворыць, што сталіцай Літвы ёсьць Вільня. Канстытуцыя не гаворыць нічога аб усіх грамадзкіх свабодах, прызнаючы выразна толькі свабоду веравызнаньня; няма нічога аб свабодзе прэсы, таварystваў, сабраньняў. Новая канстытуцыя хоць і кажа аб роўнасьці грамадзян перад правам, аднак памінае пункт з старай канстытуцыі, у якім гаварылася аб роўнасьці грамадзян, „бяз рожніцы паходжаньня, нацыянальнасьці і веры". Канстытуцыя не ўспамінае такжа аб нац. меншасьцях, якім даўнейшая канстытуцыя дэклгравала самаўрад у дзялянцы культуральнай, прасьветнай і дабрадзейнай.

Як бачым, новая канстытуцыя ўводзіць модныя цяпер фашыстоўскія тэндэнцыі.

### Англія.

Свае аграмадныя ўваружэньні гэта дзяржава мае намер скончыць у 1942 г., значыць за 4 гады. Але ўжо цяпер гатовіцца да ўсялякіх ваенных неспадзевак. Закупіла ў Канадзе ўвесь ураджай збожа, які будзе ў гэтым годзе; будуе 100 новых ваенных караблёў усякага калібру; разбудавала ваенную крэпасьць Сінгапур у Азіі (пры пераходзе з Індыйскага акіяну ў Вялікі), як базу пры абароне Індыі і Аўстраліі. Апроч гэтага, здаючы сабе справу з небясьпечнасьці дарогі на выпадак вайны па Міжземнаму моры (праз Гібралтар і Суэз), гатовіць базы-апірышчы на дарозе ўвакруг Афрыкі, там разбудоўвае парты Капштадт і Фрытоўн (Freetown), дзе наладжваюцца склады вугля, нафты і інш. Сінгапур ужо гатоў—на адкрыцьцё (11. II.) запрошаны і Злуч. Штаты, якія запросіны прынялі. Гэта мае азначаць маніфэстацыю проціў Японіі.

Сілы гэтых трох дзяржаў на моры агулам бяручы такія: Японія мае 213 ваенных караблёў здатных да бою, Англія 195, Амэрыка 119; з гэтага такіх, якія яшчэ не перастарэлі: Англія 162, Японія 150, Амэрыка 106. Японія тарпэдавых караблёў і падводных лодак мае болей за Амэрыку. Гэта прымусіла Амэрыку да ўзмацненьня тэмпа разбудовы сваей флёты.

### Саветы.

У студні адбылася першая сэсія новавыбранага савецкага парляманту, зложанага, як мы ўжо пісалі з адданых Сталіну людзей. Характэрна, што калі прамоўцы ўспаміналі слова „Сталін", усе прысутныя ўставалі на знак пашаны. Здаецца, што „белы" цар на меў такой пашаны, як „чырвоны". Парлямант зьмяніў канстытуцыю, даючы ўраду права ўвадзіць ваеннае палажэньне і асыгнаваў вялікія сумы на ўваружэньні, асабліва на марскія.

Некаторыя факты сьведчаць аб тым, што сяньняшняе савецкае жыцьцё робіцца штораз болей падобным да даўнейшага расейскага. І так—дазволена ставіць опэру „Жизнь за царя", толькі пад зьмененым назовам „Іван Сусанін". У „Праўдзе" было надрукаваных некалькі артыкулаў, у якіх даказваецца, што расейская царская дзяржава паўстала не дарогай гвалту або паняволеньня іншых народаў, але дарогай іх дабравольнага далучэньня. Кнігі „ленінскага" гісторыка Пакроўскага, ў якіх выказваліся гвалты цароў над іншымі народамі, цяпер забаронены ў сав. школах, як трацкістоўскія. Апроч гэтага „Праўда" шыдзіць з Керэнскага, які дазваляў на фармаваньне нац. вайсковых аддзелаў і гэтым даваў магчымасьць аддзяленьня ад Расеі іншых народаў. Цяпер—кажа „Праўда"—ўсякія пробы стварэньня ўкраінскіх, каўкаскіх, магамэтанскіх дзяржаў спаткаюцца з рашучым паражэньнем.

З гэтага бачым, што Саветы не перасталі быць „турмою народаў" і гнуць далей даўнейшую царскую лінію.

---

*ГРАМАДЗЯНЕ!*

*Ці Вы ўжо прыслалі падмогу на »Бел. Фронт«? Калі яшчэ не, дык на кожнай пошце дастанеце за 1 грош „przekaz rozrachunkowy", напішэце на ім наш адрас: Wydawnictwo „Białaruski Front", Wilno, ul. Ostrobramska 1—20, пастаўце Nr. rozrachunku: 100 і прышлеце нам падмогу, колькі можаце. Перасылка грашэй да 15 зл. „przekazem rozrachunkowym" не каштуе нічога. Дык адгукнецеся на нашу просьбу чымскарэй!*

*Зьвярнеце ўвагу на зьмену нашага адрасу:* цяпер *ВОСТРАБРАМСКАЯ* **1—20**.

---

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч,*

Адказны рэдактар: *мгр. В. Гадлеўскі.*

Выдавец: В. Папуцэвіч.

Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.